РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №11. 22 САКАВІКА 1993 ГОДА.

«Карта Беларускай Народнай Рэспублікі», выдадзеная ў берлінскай друкарні ў 1918 г. Пра гэту і іншыя знаходкі — на стар.3.

СЁННЯ:



## Таямніца залатых апосталаў





## Дж. Болдуін. «Масавая культура і мастак»



## Дыялог: Валерый Маслюк — Мікалай Пінігін

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР

## Спавешчаньне «Пагоні»

Вось ужо трэці год дзейнічае творчая суполка «Пагоня», у якую ўваходзяць сябры Саюза мастакоў Беларусі — жывапісцы, графікі, скульптары, майстры дэкаратыўна-ўжытковага і народнага мастацтва, мастацтвазнаўцы. Вытокі гэтага згуртаваньня ідуць ад сярэдзіны 70-х гадоў. Менавіта тады, у глухія для нашай культуры часы, група мастакоў, якая складае сёньня асноўную частку суполкі, пачала далучаць беларускага гледача да родных каранёў, да гісторыі Бацькаўшчыны, ладзячы гістарычна-мемарыяльныя мастацкія выставы, прысьвечаныя выдатным дзеячам гісторыі і культуры Беларусі. На палотнах і аркушах, габеленах і ў скульптуры ўзьнікалі славутыя постаці Рагнеды і Еўфрасіньні, Міколы Гусоўскага і Цёткі, Францішка Скарыны і Кастуся Каліноўскага. Тыя выставы, спадзяёмся, спрыялі абуджэньню самасьвядомасьці беларусаў, адказвалі на пытаньне, хто мы і адкуль, куды ідзем.

Ня так проста было спавядаць беларушчыну ў тыя часы. Былі і выклікі ў КДБ ды аддзелы ЦК КПБ, і разборкі на партсходах Саюза мастакоў, і публічнае шальмаваньне.

Сёньня сябры суполкі, як і раней, працуюць на адраджэньне Бацькаўшчыны. Калі ў 1991 годзе ў Вярхоўным Савеце Беларусі ставілася пытаньне пра беларускую дзяржаўную сімволіку, сябры суполкі арганізавалі ў сьценах Дома Ураду гістарычна-дакументальную выставу, прысьвечаную нацыянальным гістарычным сімвалам — бел-чырвона-беламу сьцягу і гербу «Пагоня». Яны ж распрацавалі эталон герба Рэспублікі Беларусь, зацьверджаны Вярхоўным Саветам.

Суполка «Пагоня» наладзіла шэраг мастацкіх выставаў — у менскім Палацы мастацтва, у Беларускім музеі ў Гайнаўцы на Беласточчыне, у 1992 годзе адкрывала сваёю выставаю тыдзень беларускай культуры ў Вільні, рэгулярна робіць тэматычныя мастацкія экспазіцыі ў Доме літаратара. Цяпер сябры суполкі рыхтуюць мастацка-публіцыстычную выставу «Адраджэньне — 93», якая адбудзецца ў Палацы мастацтва 24 сакавіка і будзе прысьвечаная слаўнай даце, 75-м угодкам з дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Плануецца і надалей шэраг выставаў і культурна-асьветных мерапрыемстваў, мэта якіх —пашыраць сярод гледачоў ідэалы Незалежнасьці Бацькаўшчыны, яе Адраджэньня.

Уся гэтая праца суполкі рабілася без аніякай фінансавай падтрымкі з боку дзяржаўных структураў і Саюза мастакоў, на сьціплыя складкі сяброў суполкі. Зважаючы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, якія перажывае наша культура, і немагчымасьць у сувязі з гэтым зьдзяйсьняць творчыя і культурна-грамадскія праекты суполкі, мы зьвяртаемся да кіраўнікоў арганізацыяў і прадпрыемстваў, фірмаў, прыватных асобаў матэрыяльна дапамагчы Рэспубліканскай творчай суполцы «Пагоня» ў ажыцьцяўленьні яе дзейнасьці, і ў першую чаргу — у арганізацыі выставы «Адраджэньне — 93», прысьвечанай 75-м угодкам БНР.

Будзем шчыра ўдзячныя тым, хто нас падтрымлівае.

Разьліковы рахунак Рэспубліканскай мастацкай суполкі «Пагоня» 609097 у Цэнтральным аддзяленьні Прамбудбанка г.Мінска, код 362.

1 сакавіка 1993 года.

**Рада Рэспубліканскай творчай суполкі «Пагоня» прафесійных беларускіх мастакоў і мастацтвазнаўцаў.**

---

Падаецца ў арфаграфіі арыгінала.

## ЯШЧАСЛІВЫ ТАБОЮ, БЕЛАРУСЬ...



Франкфурт-на-Майне — старажытны горад у цэнтры Еўропы, былы цэнтр Свяшчэннай Рымскай імперыі, які нават у назве нясе памяць аб пераправе франкаў праз Майн... Тут, на вуліцы, цесна застаўленай прыгожымі маляўнічымі дамамі, стаіць атэль, дзе жыве вядомы ва ўсім свеце акадэмік астранаўтыкі, прафесар філасофіі Барыс Уладзіміравіч Кіт — наш зямляк.

«Прайшоў год пасля распаду савецкай імперыі, і хаця дасюль за мяжой дрэнна арыентуюцца, дзе знаходзіцца Мінск, і называюць Беларусь Расіяй, у лепшым выпадку Белай Расіяй, усё ж упершыню за ўсю гісторыю Беларусь стала незалежнай. Для мяне гэта галоўная падзея XX стагоддзя», — з унутраным уздымам гаворыць ён.

Прыехаўшы ва універсітэцкую клініку дзеля працы па чарнобыльскай тэматыцы разам з беларускімі ўрачамі, я не мог не адшукаць чалавека, пра якога на Беларусі пішуць усё часцей і прыязней — і ў гэтым таксама бачна, як мяняецца час, бо вельмі ж складаны лёс людзей, што вымушаны былі некалі пакінуць Бацькаўшчыну...

Я ўяўляў Барыса Уладзіміравіча зусім не такім. Здаецца, усім сваім выглядам, жвавымі рухамі, смехам ён аспрэчваў свой узрост (а між іншым, яму 82 гады). Распавядаючы пра штосьці, ён настолькі захапляўся, што мог патупаць нагамі і засмяяцца. Але калі гаворка заходзіла пра складаныя рэчы, ён ператвараўся ў сапраўднага вучонага, матэматыка, што дакладна і ўпэўнена, з унутранай сілаю даводзіў свае думкі і тэорыі.

У яго шмат навуковых прац, ганаровых званняў і дыпломаў. Але цікавы ён для неспецыяліста апавяданнямі і ўспамінамі. Ён добра памятае, як хадзіў басанож за 20 кіламетраў у Навагрудскую школу, пасвіў кароў і як бацька адвёз яго на фурманцы ў гімназію (гэта было адзінае, чым мог дапамагчы сыну). Барыс Кіт багата зрабіў для Беларусі ў свой час. Пад уладай Польшчы і ў часы нямецкай акупацыі ён адкрыў шмат беларускіх школ і гімназій, а таксама настаўніцкую семінарыю. За гэта давялося яму тройчы сядзець у турме. Першыя два разы за актыўны ўдзел у Беларускай Сялянска-Рабочай Грамадзе (дзе старшынёй быў Браніслаў Тарашкевіч). Апошні раз пры немцах за тое, што, нягледзячы на рэпрэсіі з боку «тагачасных уладароў», заснаваў беларускі інстытут гандлю, вывучыў і нават выдаў дыпломы больш чым 300 беларускім хлопцам і дзяўчатам. Барыс Уладзіміравіч успамінае, што падчас знаходжання ў турме да яго кожны дзень у камеру кідалі шмат людзей. Назаўтра амаль усіх выводзілі на расстрэл. Гэта паўтаралася 30 дзён на яго вачах, і кожны раз чакаў ён сваёй чаргі. Але ад смерці выратавала заступніцтва былога вучня (якому гэта каштавала жыцця).

Але такая самаахвярнасць лічылася з боку савецкай улады здрадай, і таму пасля 1944 года, каб захаваць жыццё, заставаўся адзіны шлях — на Захад. Там і пражыў ён большую частку жыцця, даведваючыся аб Радзіме з газет, замежнага тэлебачання, чуйна ўспрымаючы ўсе падзеі, што адбываліся на Бацькаўшчыне.

Інтарэсы спадара Барыса Уладзіміравіча ідуць далёка ад касманаўтыкі і філасофіі. Ён добра ведае, што адбываецца ў свеце, асабліва на Беларусі, любіць сусветную гісторыю. Падчас прагулкі па Франкфурце, увесь час паказваючы на дамы і вуліцы, тлумачыў назвы, падзеі, што адбываліся ў розныя стагоддзі. У гістарычным музеі быў лепшым за любога гіда, таму што звычайныя карціна або партрэт ажывалі праз аповяды, інтанацыі, дробныя дэталі.

Для сябе Б.Кіт патрабуе зусім нямнога. Адзін пакой з маленькай кухняй у гатэлі, дзе стаіць ложак і рабочы стол. А на сценах вісяць фотаздымкі гаспадара, двух сыноў, дыпломы сусветнай Акадэміі астранаўтыкі, універсітэтаў, а таксама партрэт акадэміка Барыса Уладзіміравіча Кіта, які падарыла яму мастачка Раіса Сіплевіч. А сваё фота гаспадар зняў са сцяны і перадаў газеце «Культура» ў знак сяброўства.

Нядаўна ён перадаў вялікую частку сваіх архіваў на Беларусь, на Наваградчыну, якую так любіць. Наперадзе — даследаванні аб ім, яго сябрах — над гэтым зараз працуе Лідзія Савік , — стварэнне таварыства па рэалізацыі ідэй Барыса Кіта, куды ўвойдуць вядомыя людзі Беларусі. А для мяне, студэнта, гэтыя сустрэчы ў Франкфурце-на-Майне назаўсёды застануцца незабыўнымі.

Пасля гаворак мяне не пакідала светлае і шчырае адчуванне. У нейкі момант я зразумеў: да Барыса Уладзіміравіча не трэба стукацца, ён сам ідзе насустрач, таму што любіць людзей і праз усе напластаванні бачыць у кожным чалавеку боскі пачатак. Але зноў і зноў узнікала думка: чаму многім нашым славутым землякам не хапае месца на Беларусі, чаму склалася такое становішча, што, каб дасягнуць вышыняў навукі, трэба пакідаць Радзіму? І чаму ўвесь гэты час веды, розум і вопыт Б.Кіта былі патрэбны ўсяму свету, але толькі не нам? Але паступова душу запаўняла надзея, якою ўсе гэтыя гады жыў Барыс Уладзіміравіч, што мы будзем сапраўды незалежныя.

**Руслан КАЧАТКОЎ.**

## ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

## ЧЫЙ «КОМПАС»?

Прабягаючы вокам па звычных назвах газет у кіёску, ніколі не звяртаў увагі на гэтую. Турызмам асабліва не захапляюся, арыенціроўку пасярод вуліцы не губляю — у компасе, словам, патрэбы не адчуваю, а таму і лісток з надпісам «Наш компас» з лёгкасцю пакідаў па-за сваёй прафесійнай увагай.

Што мяне падштурхнула ўгледзецца на гэты раз, сказаць цяжка, але вынік быў ашаламляльны — побач з загалоўкам на разгорнутым сцяжку раптам убачыў з дзяцінства знаёмыя профілі. Ды не звычны барадаты трохгаловік, а суперкампазіцыю, якую арганічна дапаўняла вусатая пыса сухарукага параноіка!

Вы, паважаныя чытачы, пэўна ўжо паспелі заўважыць нашу цікавасць да палітычнай прэсы незалежнай Беларусі. Гэта не дзіўна, бо паняцце «культура» ўключае ў сябе і культуру палітычную, а таму ўзровень доказнасці, думкі, спрэчак ідэолагаў розных палітычных рухаў не можа не прыцягнуць увагу газеты нашага профілю. «Незалежная» газетка «Наш компас», якая фактычна з'яўляецца органам мясцовых камуністаў-бальшавікоў (самая нескароная і артадаксальная частка «чырвоных»), — унікальны прыклад таго, як не трэба і, больш таго, не можна рабіць газеты.

І справа нават не ў палітычных поглядах рэдактара-заснавальніка Васілія Каліберава, надзейнага байца Усесаюзнай камуністычнай партыі бальшавікоў. Справа нават не ў паталагічнай агрэсіўнасці і нянавісці да людзей неабальшавіцкага лідэра Ніны Андрэевай, якая цытуецца на кожнай старонцы выдання.

Справа хутчэй у мастадонтнасці газеткі ў кантэксце часу.

Яе чытачы і стваральнікі жывуць у сваім, ілюзорным свеце, які напоўнены хімерамі СССР і сацыялізму, калектывізацыі і індустрыялізацыі. Яны змагаюцца за чысціню камуністычнай думкі з левымі і правымі апартуністамі, чахвосцяць на чым свет стаіць Хрушчова (якому не могуць дараваць Сталіна) і Гарбачова. З імпэтам вар'ятаў бэсцяць усё, што адбылося пасля 53-га года, бясконца цытуюць крывавага Язэпа і шчыра ўсхваляюць яго веліч.

«Вознесённый на головокружительную высоту, он не прельстился роскошью и праздностью. Боготворимый народом, он обречён на непонимание самыми близкими. Обладавший неограниченной властью, взвалил на себя ежеминутный и неблагодарный труд, результатом которого стало могущество нашей страны».

Гэта — пра крыважэрнага Сталіна!

І ў гэтым жа нумары — прамова Ніны Андрэевай «Подготовим свой Сталинград продажному режиму! Другого нам не дано!» (загаловак, бадай, скажа пра змест опуса нават болей, чым трэба).

На нумар раней чытаю: «Мы верим: ветер истории сметёт кравчуков, ельциных, шушкевичей и прочих предателей с лица земли нашей.»

Не хочацца болей і цытаваць — адназначна брудная і, як кажа сёння моладзь, «ад'ехаўшая» ад рэалій газетка, ідэалагічны, прафесійны ўзровень каторай варты жалю. І «Наш компас» сапраўды не варты быў бы ўвагі, каб не адно «але».

Выдаецца гэты лісток у Мінску, зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі, друкуецца на мінскай фабрыцы «Чырвоная зорка» і распаўсюджваецца праз дзяржаўныя газетныя кіёскі.

І менавіта гэтыя абставіны спараджаюць цэлы шэраг пытанняў. Чаму антыдзяржаўнай барацьбой газеткі не цікавіцца Пракуратура Рэспублікі Беларусь? Чаму газета, якая прапагандуе сталінізм як разнавіднасць фашызму (а тое, што вусаты кат нарабіў бяды не меней за Гітлера, даказваць, бадай, ужо няма патрэбы — занадта многа ахвяраў і сведкаў, фактаў і ўлікаў), як такая газета атрымала пасведчанне ў Міністэрстве інфармацыі і займела права на жыццё? І ці не падкажа Міністэрства юстыцыі, якое юрыдычнае права дзейнічаць на тэрыторыі нашай дзяржавы мае філіял партыі замежнай краіны (маецца на ўвазе мясцовая філія ВКПБ)?

Вельмі было б цікава атрымаць ад кампетэнтных органаў адказы.

Ну, а са свайго боку адзначу — паўзіраўшыся ў чатыры профілі ля загалоўка, заўважыў цікавую дэталь. Аказваецца, камуністычная ідэя нават у сваіх носьбітаў перажыла дэградацыю. Шлях ад Маркса да Сталіна не толькі скампраметаваў камунізм у гістарычным плане, але і адлюстраваў, так бы мовіць, інтэлектуальнае выраджэнне. Адсутнасць элементарных ведаў у галіне правапісу і пунктуацыі, не кажучы пра спецыфічна журналісцкія веды па вытворчасці газеты ў супрацоўнікаў «Нашего компаса» —таму пацвярджэнне.

А ўвогуле добра, што гэтая газета трапілася мне на вочы. Яна паспрыяла здзейсніць даўнюю задумку аб нараджэнні новай рубрыкі «Культуры», якая дапамагла б зарыентавацца ў моры сучаснай палітычнай публіцыстыкі. Мы спадзяёмся рабіць гэтую рубрыку разам з вамі, паважаныя чытачы, а таму вельмі чакаем вашых допісаў з прапановамі, праектамі, меркаваннямі і выразкамі з тых газет, якія выклікалі вашую нязгоду альбо пярэчанне. Давайце шукаць праўду разам!

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**

## СЕАНС „БЕЛАЙ МАГІІ"

Аншлаг у кіно сёння — з'ява досыць незвычайная.

Сеанс, што адбыўся нядаўна ў сталічным кінатэатры «Кастрычнік», падчас якога ў зале зусім не было свабодных месцаў, і сапраўды быў незвычайны. Сюды на бясплатны прагляд мастацкага фантастычнага фільма «Падводныя вандроўнікі» былі запрошаны навучэнцы мінскіх школ і інтэрнатаў.

Дабрачынную акцыю арганізавалі Беларускае аб'яднанне маладых кінематаграфістаў, у якім быў пастаўлены фільм, і спонсар кінастужкі банк «Паўночны Захад». Дапамогу ў правядзенні сеанса аказала газета «Рэспубліка».

Дарэчы, фільм «Падводныя вандроўнікі» (рэжысёр — А.Філатаў, аператар — С.Бондараў, прадзюсер — А.Перавяслаў) стаў летась лаўрэатам XIX Міжнароднага фестывалю ў французскім горадзе Антыбе «Падводнае адлюстраванне».

І яшчэ адзін штрых. Сярод гледачоў былі глуханямыя дзеці. Дзеля іх на працягу ўсяго сеанса працавала на сцэне, у святле пражэктараў у якасці сурдаперакладчыцы І.Лаўцюс.

Шкада, што аншлагі ў кінатэатрах здараюцца ўсё радзей. А такія вось сеансы «белай магіі» для юных гледачоў — тым больш.

**В.Т.**

# БНР, АКУПАЦЫЯ І «КИСЛЫЙ ЧОРТ»

Спадзяюся, што знойдзеныя мною сярод рукапісаў Язэпа Дылы «Карта Беларускай Народнай Рэспублікі» і рускамоўная газета «Кислый Чорт», выдадзеныя пасля ўтварэння БНР, дапоўняць карціну культурнага жыцця Менска падчас яго акупацыі кайзераўскай Германіяй. Дзіўна, але факты пераконваюць, што гэты перыяд быў насычаны культуралагічнымі падзеямі. Менавіта падчас акупацыі свядомая частка насельніцтва адчула, што наступіла пара адраджэння не толькі беларускай дзяржаўнасці, але і беларускай культуры. І гэтаму, між іншым, спрыялі тыя нямецкія інтэлігенты, што прыхільна ставіліся да стварэння незалежнай беларускай дзяржавы. Мы пакуль не можам сказаць, хто канкрэтна з іх паспрыяў выданню ў берлінскай друкарні Вільгельма Гартмана «Карты Беларускай Народнай Рэспублікі» на беларускай і французскай мовах, але ўражвае аператыўнасць, з якой кіраўнікі і ўпраўленчы апарат БНР дзейнічалі ў тыя гістарычныя для нашай дзяржавы месяцы.

Другой важнай падзеяй у гісторыі Беларусі гэтага перыяду была Мінская абласная выстава, якую арганізаваў нямецкі мастацтвазнаўца доктар Іпель. Ён праўеў некалькі экспедыцый і сабраў па Мінскай вобласці збор твораў старажытнага беларускага мастацтва, склаў на рускай мове «Каталог Минской областной выставки древностей и изящных искусств» і апублікаваў яго ў 1918 годзе ў газеце 10-й арміі. Гэтай выставай немец Іпель мацаваў свядомасць беларусаў, звяртаў іх увагу на свае каштоўнасці, дапамагаў ім адчуць сябе еўрапейскім народам, якога магутны ўсходні сусед лічыў усяго толькі насельніцтвам Паўночна-Заходняга краю.

На жаль, мы не змаглі годна аддзячыць першага замежнага даследчыка мастацтва Беларусі. За 75 год не знайшлі магчымасці даследаваць біяграфію паважанага доктара Іпеля, не ведаем нават яго імя, дзе ён нарадзіўся, вучыўся, дзе працаваў да 1918 года і да т.п. У свой час нам не хапіла адвагі, каб узняцца вышэй камуністычных догмаў і паглядзець на сваю ўласную гісторыю з пазіцый інтарэсаў Беларускай дзяржавы, а не Расійскай імперыі. Дарэчы, камуністычныя ўлады БССР хавалі ад грамадскасці факт добразычлівых адносін да нашай спадчыны немцаў — каталог выставы захоўваўся ў Спецхране былой Дзяржаўнай бібліятэкі імя У.І.Леніна.

Цікавую інфармацыю аб жыцці Менска ў 1918 годзе дае нам першы нумар згаданай вышэй газеты «Кислый Чорт».

Згодна з «Энцыклапедыяй літаратуры і мастацтва Беларусі», у 1918 годзе ў Менску выходзіла адна бальшавіцкая беларускамоўная газета «Звязда» і адна рускамоўная — «Минский голос». Аднак неабходна зазначыць, што рэдактар «Минского голоса» А.Уласаў у 1914 годзе выдаваў у Менску беларускамоўны часопіс «Лучынка». Ва ўступным артыкуле газеты «Кислый Чорт» мы чытаем: «Наша ориентация самая правильная, не германская, не англо-французская, не еврейская, не белорусская, а — «Чувашская». Ибо — чуваши тихо сидят и делают своё дело дома. Они не прут на рожон, как русские, ставшие большевиками и печатающие неисчислимое число керенок во имя...» (далей тэкст абарваны).

Як далей вынікае з тэксту, сітуацыя ў 1918 годзе ў нечым нагадвала сучасную, калі асобныя прадстаўнікі некаторых нацыянальных меншасцяў Беларусі адмоўна ставіліся да працэсу беларускага нацыянальнага адраджэння.

Матэрыялы захаванай часткі першага нумара гэтай газеты, выдадзенай М.Усманам з дазволу нямецкай ваеннай цэнзуры ў тыпалітаграфіі Саламонава, сведчаць, што менчукоў тады хвалявалі амаль тыя самыя, што і нас сёння, праблемы. Напрыклад, жыхары скардзіліся ў газету, што «в таком-то кинематографе перепорнографили» (звярніце ўвагу на словы «в таком-то кинематографе» — г.зн. у Менску тады было некалькі кінематографаў). Дарэчы, «перадавіца-зварот» пачынаецца наступнымі словамі: «Товарищи-минчане, буржуи и спекулянты!..» А са звычайнай аб'явы мы даведваемся, як мясцовыя кельнеры бавілі сямейныя інтымныя вечары. Між іншым, яны нават прадугледжвалі форму адзення — "фраки и смокинги, но без салфеток". Газета імкнулася смехам і гумарам падвесяліць самотнае жыццё менчукоў: «Рукописи, присланные в редакцию, никогда не читаются. Г.г. авторов вообще просят не беспокоиться и вздора не присылать — своего достаточно.»

Узнікненне сатырычнай і даволі памяркоўнай у палітычных адносінах газеты падчас акупацыі горада немцамі — з'ява неардынарная. Асабліва, калі ўлічыць, што такая газета з'явілася ці не ўпершыню ў гісторыі беларускага перыядычнага друку.

Падсумоўваючы згаданае, можна зрабіць выснову, што, нягледзячы на прысутнасць кайзераўскіх войскаў, культурнае жыццё ў маладой рэспубліцы не перапынялася. І больш за тое. Якраз у тую пару актыўна мацаваўся падмурак нацыянальнага адраджэння, які пазней ушчэнт разбурылі бальшавікі.

Мая ЯНІЦКАЯ.

# ВІВАТ, АКАДЭМІЯ!

*ALMA MATER МУЗЫКІ — 60*

**Летась у гісторыі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі пачаўся новы этап: яна набыла статус АКАДЭМІІ МУЗЫКІ.**

**Славутая alma mater была адкрыта ў лістападзе 1932 года. Святочныя канцэрты, прысвечаныя юбілею, завяршаюцца ў гэтыя дні. З рэктарам Акадэміі музыкі, народным артыстам Беларусі, прафесарам Міхасём КАЗІНЦОМ сустрэлася наш карэспандэнт.**

— Міхась Антонавіч! Так сталася, што Вы не толькі выпускнік кансерваторыі, яе выкладчык, рэктар, але ж і першы рэктар Акадэміі музыкі. Статус дастаткова сур'ёзны...

— Тое, што кансерваторыя стала называцца акадэміяй — не фармальная змена шыльдаў. Увесь наш гістарычны, творчы, навуковы вопыт, які быў назапашаны да 1992 года, стаў грунтам для больш шырокіх і складаных задач. Шэсцьдзесят год плённай працы выкладчыкаў і студэнтаў кансерваторыі зрабілі яе сучаснай установай з буйнымі факультэтамі, аўтарытэтнымі кафедрамі, цікавымі музычнымі калектывамі, опернай студыяй, сектарамі выканальніцкай і педагагічнай практыкі, развітым навуковым сектарам з выдавецкай дзейнасцю, аспірантурай і асістэнтурай-стажыроўкай. Былі наладжаны трывалыя міжнародныя сувязі. Словам, кансерваторыя сапраўды стала Акадэміяй, і трэба было толькі замацаваць гэтую назву і працаваць па пэўных канцэптуальных выкладках, скіроўваючы навуковы і навучальны працэс у рэчышча асноўнай мэты, якая паўстала перад намі пасля гістарычных змен у рэспубліцы. Беларусь стала незалежнай дзяржавай, і наша Акадэмія бачыць сваю галоўную задачу ў стварэнні менавіта нацыянальнага цэнтра музычнай адукацыі. Ідэі Адраджэння — наш духоўны патэнцыял.



Ідуць заняткі...

Цяпер перад намі адкрыта неабмежаваная перспектыва ўдасканалення і развіцця кампазітарскай, вакальнай, выканальніцкай, музыказнаўчай школ; мы маем выдатныя магчымасці паказаць свае дасягненні музычнаму свету. У юбілейным для нас 1992 годзе выхаванцы Акадэміі сталі пераможцамі складаных міжнародных спаборніцтваў у ЗША, Канадзе, Італіі, Германіі, Польшчы, Расіі, на Украіне. Больш трывалыя цяпер нашы сувязі з буйнымі музычнымі ўстановамі ў Берліне, Варшаве, Любляне.

— Такім чынам, беларускую Акадэмію цяпер ведаюць, так бы мовіць, у вышэйшым музычным свеце. А якія змены гэта ўносіць у навучальны працэс? Ці будуць нашы студэнты праходзіць стажыроўку ў лепшых еўрапейскіх установах?

— Мы маем магчымасць непасрэдна заключаць дамовы аб навучанні ў нас замежных студэнтаў і па абмене накіроўваць за мяжу сваіх выхаванцаў. Сёлета нашы студэнты будуць выступаць у складзе Расійска-амерыканскага сімфанічнага аркестра: месяц у Амерыцы, месяц — у Расіі. Дарэчы, трапіць на такую стажыроўку нялёгка — трэба было вытрымаць даволі складаны конкурс. Вядома, пакуль мы толькі наладжваем супрацоўніцтва ў канкрэтных пытаннях. Але зараз ужо зусім іншае становішча: мы не залежым, як раней, ад Масквы і ад тых размеркаванняў, якія спускаліся да нас адтуль.

— Усё, пра што Вы расказалі, абнадзейвае. І ўсё ж, Міхась Антонавіч, цяжка паверыць, што няма ў Вас як у рэктара ніякіх праблем...

— Праблемы, зразумела, ёсць. І, бадай, самая надзённая —пашырэнне нашай матэрыяльнай базы. Нам не хапае класаў для заняткаў, няма залы для опернай студыі, канцэртаў. Бібліятэка, якая мае каля 250 тысяч экземпляраў рарытэтных выданняў, амаль недаступная для студэнтаў, бо няма чытальнай залы. У будынку, які быў



узведзены ў 1957 годзе, нам ужо цесна. Яшчэ кіраўніцтва кансерваторыі звярталася ў Савет Міністраў з просьбаю дапамагчы новымі плошчамі. І ў 1988 годзе выйшла пастанова ўрада аб перадачы кансерваторыі будынка абласнога савета прафсаюзаў, які знаходзіцца непадалёк. Мы маглі б стварыць кампактны комплекс акадэмічных устаноў. Але справа так і не зрушыла з месца. Атрымліваецца дзіўная рэч: прафсаюз, які заўсёды на словах займае самую прагрэсіўную пазіцыю ў адносінах да культуры, на справе не можа вырашыць такое надзвычай важнае для нацыянальнай культуры пытанне. Вельмі хацелася б, каб нас нарэшце пачулі тыя, хто павінен выконваць узгаданую пастанову Саўміна Беларусі.

— Мне застаецца пажадаць Акадэміі, яе прафесарам, выкладчыкам, студэнтам і абітурыентам, усім стваральнікам музычнага мастацтва творчага плёну. Дзякуй Вам за гутарку.

Здымкі Генадзя ЖЫНКОВА.

# ХТО ДАСЦЬ АДКАЗ?

У тым, што ў нас зараз пануе нацыянальны нігілізм, ёсць, на маю думку, віна і культасветнікаў. Як раней працаваў загадчык клуба? Усе свае планы ён узгадняў з сакратаром партыйнай арганізацыі. У асноўным праводзіліся мерапрыемствы, што ўсхвалялі кіруючую ролю партыі і былі прысвечаны розным пленумам і з'ездам. У сельскім клубе праводзіліся мерапрыемствы, прысвечаныя, напрыклад, Дню ўтварэння Узбекскай ССР. Гэта, на думку мясцовага парторга, павінна было спрыяць інтэрнацыянальнай дружбе ўзбекскага дэхканіна і беларускага калгасніка. У той час рэдка калі праводзіліся вечары, канцэрты, святы, прысвечаныя Беларусі, беларускаму народу.

Адрадзіць нашу нацыянальную культуру без валодання беларускай мовай немагчыма. Ну як, напрыклад, можна правесці святы «Юр'я», «Дзяды», «Каляды», «Купалле»? Як можна збіраць фальклор, не ведаючы мовы? Але, на жаль, вельмі многія культработнікі як карысталіся, так і карыстаюцца расейскай мовай.

Па характары сваёй работы даводзіцца часта бываць у клубных установах. Калі цікавішся падпіскай на газеты, заўважаеш, што мала хто выпісвае «Літаратуру і мастацтва», «Культуру», "Наша слова». А гэта ж выданні, неабходныя для работы культасветработнікаў у першую чаргу. «Літаратура і мастацтва» —газета творчай інтэлігенцыі, той жа культработнік павінен разбірацца ў плынях музыкі, мастацтва, літаратуры. У газеце «Культура», за што ёй вялікі дзякуй, друкуюцца сцэнары розных святаў, абрадаў, шмат гістарычнага матэрыялу аб мінуўшчыне Беларусі. У газеце "Наша слова» заўжды можна знайсці неабходны для работы матэрыял, вершы, прымаўкі, загадкі і г.д.

Сёння амаль кожны першакласнік ведае, хто такія Суворай і Кутузаў. Аднак, спытайце, хто такія Міндоўг ці Астрожскі? Наўрад ці хто дасць адказ.

Клубныя работнікі зараз павінны скіраваць свае памкненні на тое, каб абуджаць нацыянальную свядомасць грамадзян Беларусі.

Мікалай ЛЕНКАВЕЦ, г.Ганцавічы.

# НАМ ЁСЦЬ КІМ ГАНАРЫЦЦА...

... Вашу газету, як і «ЛіМ», «Наша слова», «Свабоду», «Навіны Беларускага Народнага Фронту», у Мінску зараз немагчыма знайсці. Кіяскёры наўмысна хаваюць іх далей ад вачэй пакупнікоў у самыя далёкія куткі, закладваюць іншымі выданнямі. Але, нягледзячы на гэта, «ЛіМ» і «Культура» не вельмі залёжваюцца на паліцах кіёскаў.

А цяпер мая прапанова. Трэба хутчэй абуджаць у беларусаў пачуццё ўласнай нацыянальнай годнасці. У наш няпросты час трэба будаваць помнікі нашым знакамітым землякам і ў першую чаргу —славутаму сыну беларускага народа — Кастусю Каліноўскаму. Гэта будзе сапраўды народны помнік. І такіх помнікаў павінна быць як мага больш, бо нам ёсць кім ганарыцца...

Алег АНДРУШКЕВІЧ, г.Мінск.

# Таямніца зала



## ВАКОЛ ПРАЎДЫ І ВЫДУМАК

Самы легендарны скарб на беларускай зямлі, які да гэтага часу не знойдзены і звязаны перш за ўсё з падзеямі напалеонаўскага нашэсця, — гэта скарб князёў Радзівілаў, і найперш статуі «Дванаццаць апосталаў», якія быццам бы зробленыя ў натуральны рост чалавека і ўпрыгожаны каштоўнымі камянямі. Прычым зроблены з чыстага золата!

Існуе некалькі захапляльных версій, адкуль з'явіліся ў слынных беларускіх магнатаў гэтыя найкаштоўныя творы і як зніклі ў ліхую часіну. Адна з найбольш праўдападобных апавядае, што «евангелістаў» прывёз з крыжовага паходу адзін з пачынальнікаў роду Радзівілаў. Рацыянальнае зерне тут ёсць. Сапраўды, сын князя Мікалая Сіроткі — Сігізмунд-Карл, прыняты ў Балоньі (Італія), быў рыцарам Мальтыйскага ордэна. У 1609 годзе з дазволу яго гросмайстра ён стварыў у Сталовічах (непадалёку ад сучасных Баранавічаў) камандорства, адкуль і здзяйсняў паходы сумесна з крыжаносцамі на Канстанцінопаль. Праз некаторы час, па патрабаванню Расіі, камандорства было распушчана, але да гэтага крыжакі паспелі вывезці з Царграда 12 статуй, значна пазней названых «залатымі апосталамі».

У 1759 годзе статуі былі асвечаны ў Ватыкане, а іх непасрэднаму ўладальніку выдадзена грамата, паводле якой Радзівіл атрымаў бесперапынны — у любы час — доступ у рэзідэнцыю папы Рымскага.

У 1771 годзе калегія фарнага езуіцкага касцёла ў Нясвіжы, родавай усыпальніцы князёў Радзівілаў, запрасіла знакамітых майстроў з варшаўскага сабора святога Яна для рэстаўрацыі вялікага мастацкага палатна «Тайная вячэра», якое займала ўсю алтарную частку храма. Мастакам патрэбны былі мадэлі апосталаў. Ім паказалі 12 апосталаў з золата і серабра. Вялікім і невыказным было здзіўленне творцаў, калі яны ўбачылі поўную ідэнтычнасць статуй і кампазіцыі «Тайная вячэра» Леанарда да Вінчы ў Міланскім манастыры Санта Марыя дэ ла Грацыя. Майстры былі ашаломлены, але факт дзіўнага супадзення так і не маглі растлумачыць.

У канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзя банда рабаўнікоў спрабавала завалодаць каштоўнымі выявамі. Радзівілы мусілі пайсці на своеасаблівую хітрасць: яны загадалі прыдворнаму майстру (у некаторых выпадках гаворыцца — мастаку. — А.Н.) вылепіць 12 апосталаў «з воску і ўпрыгожыць іх каштоўнымі камянямі». Мастак апраўдаў давер сваіх гаспадароў: выканаў загад так, што цяжка было адрозніць сапраўдных (залатых) апосталаў ад падробкі. Васковыя скульптуры былі выстаўлены ў Блакітнай зале Нясвіжскага замка разам з васковымі фігурамі пакараных рабаўнікоў. Так на Беларусі ўзнік першы музей васковых фігур (парсун), узнік намнога раней, чым славуты музей мадам Цюсо ў Лондане.



Кожная зала, кожны пакой палаца Радзівілаў уяўляў сабою сапраўдны музей. Прычым усё падбіралася з густам, з веданнем справы. Дзякуючы багатай фантазіі прадстаўнікоў роду, падарункам манархаў, дыпламатаў, каралёў і імператараў у нясвіжскай скарбонцы былі сабраныя самыя розныя прадметы нечуванай каштоўнасці і мастацкай рэдкасці.

Магутны старажытны род Радзівілаў ва ўсе часы здабываў, скупляў, заваёўваў — праўдамі і няпраўдамі — у розных краінах свету вельмі рэдкія каштоўнасці і творы старадаўніх майстроў, зробленыя з каштоўных металаў. Пра фамільныя каштоўнасці роду хадзілі легенды. Так, Радзівілы збіралі і скуплялі, бо мелі вялізныя грошы, але калекцыяніравалі не столькі для сябе, а для ўсяго роду, для ўсёй Беларусі, бо любілі і самі пахваліцца, і старонку сваю ўславіць. Яны рабілі ўсё, каб захаваць рэдкасныя рэчы і каштоўнасці, старадрукі і летапісы, дываны, габелены і паясы, але, на вялікі жаль, не ўсё, далёка не ўсё захавалася да нашага часу. Многае бясследна знікла, бо прыклалі свае рукі злодзеі, махляры і «вызваліцелі» беларускага народа розных часоў, канчаючы славутым 1917 годам.

«Залаты запас» Радзівілаў бачыў былы міністр замежных спраў Польшчы А.Чартарыскі, які апісаў гэтае непаўторнае для сябе відовішча ў мемуарах, выдадзеных у Парыжы ў 1887 годзе: «Багаты замак у Нясвіжы. У 18 залах адных толькі ўпрыгожванняў сабрана на 5 — 10 мільёнаў дукатаў. Каштоўнейшая калекцыя зброі, карцін, кніг, брыльянтаў. Але няма нічога даражэй за калекцыю «Дванаццаць апосталаў». Пяць з іх з чыстага золата і ўсыпаны каштоўнымі камянямі. Кошт іх роўны кошту золата, выдаткаванага імператарам Напалеонам на Егіпецкі паход».

Пра залатыя і сярэбраныя скульптуры ў рост чалавека пісаў у сваіх успамінах і М.Агінскі (Варшава, 1868): «Гэтыя статуі яны (маюцца на ўвазе Радзівілы. — А.Н.) вазілі з сабою. Калі прагуляюць дзе (у карты. — А.Н.) ці хочуць прыдбаць новыя маёнткі, то закладваюць аднаго з 12-ці апосталаў, але заўсёды потым выкупляюць назад.» Адзін з прыдворных падхалімаў Лясноўскі (ягоная пасада нам невядома) пакінуў такія згадкі пра евангелістаў: «Дванаццаць апосталаў і чатыры евангелісты велічынёй у два локці — гэта золата ў радзівілаўскай скарбніцы; сапраўды, тых святых апосталаў і евангелістаў можна назваць хатнімі бажкамі, бо яны не павінны дапусціць ніякіх няшчасцяў у доме Радзівілаў... Дванаццаць вялікіх касцельных ліхтароў, мядніца, налівачка, каштоўныя келіхі, пацiны, кадзільніцы, ампулы — усё з чыстага золата; рэчы большай часткай — адлітыя, як, напрыклад, ліхтары, часткова — выкаваныя. Гэты бясцэнны скарб для таго толькі і зроблены ў форме касцельных рэчаў, каб быў заўсёды цэлым, некранутым, каб бараніў ад вялікіх няшчасцяў Рэч Паспалітую і радзівілаўскі дом: пры выпадку святыя апосталы не пашкадавалі б сваёй міласэрнасці нябеснай...»

## ЗЯМЛЯ ЗОЛАТА НЕ ХАВАЕ...

Новы ўсплёск ажыятажу вакол нясвіжскіх скарбаў выклікала Айчынная вайна 1812 года з французамі.

Паводле адной з гістарычных версій, восенню 1812 года з захопленай французамі Масквы ў Нясвіж пацягнуліся абозы з музейнымі рэліквіямі, царкоўнымі атрыбутамі, нават з пазалочанымі лістамі, садранымі з купалаў маскоўскіх храмаў. Гэта, кажуць, было нарабаванае французамі, але перакупленае Радзівіламі дабро.

Справа ў тым, што тагачасны ўладальнік замка Дамінік Радзівіл перайшоў з палком уласных уланаў на бок Напалеона. Імкліва адступаючы пад націскам рускіх казацкіх палкоў, ён заехаў у свой родавы замак, дзе паспеў аддаць каменданту загад: накіраваць услед за ім і французамі, што ўцякалі, некалькі абозаў з каштоўнасцямі замка. Але горад у хуткім часе занялі рускія войскі пад камандаваннем адмірала П.Чычагава.

Калі 26 кастрычніка 1812 года руская армія раптоўным ударам вызваліла Нясвіж, то камандзір 14-га егерскага палка А.Красоўскі пісаў у сваім данясенні ў вышэйшыя інстанцыі: «Непрыяцель не чакаў атакі і ачысціў горад, у якім знойдзена больш чым на мільён каштоўнасцей, брыльянтаў і жэмчугаў, нарабаваных у Маскве і прывезеных у Нясвіж на захаванне».

Тут цяжка пагадзіцца з расейскім афіцэрам. Сумненне выклікае той факт, адкуль А.Красоўскі даведаўся і гэтак пераканаўча піша, што «нарабаванае ў Маскве і прывезенае ў Нясвіж на захаванне»? Можа, такім чынам камандзір палка прыхаваў марадзёрства расейскіх войскаў і ўласнае ў родавым маёнтку Радзівілаў? Вядома ж, калі гэта нарабаванае, дык забірай назад і пытацца асабліва не трэба! Але адзін звычайны камандзір егерскага палка мог ведаць, што гэта маскоўскія

# тых апосталаў

каштоўнасці? Хто яму мог у такой складанай сітуацыі, калі ворагі толькі што ўцяклі, а па іх слядах ішлі расейскія салдаты, гэта даведацца? Чаму нельга, напрыклад, дапусціць, што нагружаныя ў абозы скарбы з'яўляліся асабістымі, а не нарабаванымі, каштоўнасцямі Радзівілаў? Што захоплены абоз быў адным з апошніх, а мо і апошні, а астатнія скарбы Радзівіл паспеў забраць, адыходзячы, з сабою? Чым можна абвергнуць усе гэтыя довады? Амаль нічым, бо ў тым хітраспляценні падзей і таямніц цяжка даваць афіцыйнаму сцвярджэнню, што расейскія войскі толькі «вызвалялі» і нічога болей благога не рабілі: не рабавалі, не палілі, не забівалі...

У сваёй кнізе «Гісторыя Беларусі» польскі даследчык М.Кольман піша: «На тэрыторыю Беларусі перанёсся тэатр ваенных дзеянняў — войскі Аляксандра I, якія мелі на мэце хутчэй выгнаць праціўніка, з пачатку лістапада скіраваліся на Мінск і занялі Нясвіж, дзе разрабавалі скарбы радзівілаўскія і забралі ўсё каштоўнае аздабленне з сярэдзіны палаца. Усё тое вывезена на колькіх дзесятках вазоў, замак аддадзены на тры дні на разрабаванне салдатам. Неаднаўляльная страта была нанесена каштоўным архівам: войска паліла дакументы, імі быў запоўнены роў, што атуляў магнацкую рэзідэнцыю». Хадзіла нават чутка, што расейскія салдаты зрывалі металічныя пазалочаныя лісты з дахаў і грубак.

Гэта была помста Д.Радзівілу (пра тое мы ўжо згадвалі) за яго ўдзел у паходзе на Маскву. Самавольства войска было нечуванае, таму кіраўніцтва мусіла аддаць загад аб літасці да арыстакрата праз загад да генерала Тучкова, да камандзіраў падраздзяленняў, якія занялі Нясвіж.

Ёсць і іншыя сведчанні наконт таго, як «вызваліцелі» добра пагаспадарылі ў Радзівілаўскім родавым гняздзе. Хутчэй за ўсё ў тыя жудасныя дні і прапала значная колькасць каштоўнасцей — тое, што было навідавоку: посуд, аздобы абразоў, карцін, пазалочаная папера, віньеткі, нават шпалеры і пячныя сярэбраныя і залатыя лісты. У нашай літаратуры нам не даводзілася сустракаць гэткіх сведчанняў. Лічылася, што Айчынная вайна 1812 года была для беларускага народа толькі вызваленчай — і ўсё, а колькі гора яна прынесла беларусам — маўчалі. Маўчалі і пра тое, што расейскія войскі таксама мала ў чым саступалі французам, калі параўноўваць рабункі маёнткаў, гарадоў, мястэчак.

Першае згадванне пра тое, што Нясвіжскі замак быў сапраўды разрабаваны расейскімі войскамі, сустракаем у А.Кіркора: «Нясвіж належаў князю Даменіку Радзівілу, які за свой кошт паставіў Напалеону цэлы полк. Полк гэты амаль увесь быў вынішчаны. Адмірал Чычагаў даносіў імператару , што ацалелых воінаў князь Радзівіл накіраваў у Нясвіж з абозам, які складаўся з пяцідзесяці вазоў, дзе знаходзілася нарабаванае ў Маскве. Абоз гэты трапіў у рукі рускіх. Адмірал Чычагаў дадае ў сваім данясенні, «што князь Радзівіл дазволіў сабе з гэтага выпадку (відаць, з выпадку захопу яго абоза з не нарабаванымі, а родавымі каштоўнасцямі. — А.Н.) зневажальныя для рускіх войскаў намёкі. За гэта, піша Чычагаў, я дазволіў пакапацца ў сутарэннях яго дома. Там знайшлі скарбы: жэмчуг, брыльянты і г.д. Я вывез усё, што мог, гэта будзе складзена ў Бабруйску ці ў іншым месцы, і вы загадайце, што з гэтым рабіць. Я не бачыў, але кажуць, што ёсць музейныя рэчы. Усё ацэньваецца больш чым на мільён рублёў».

Далей А.Кіркор працягвае: «Скарбы, якія збіраліся ў Нясвіжы Радзівіламі на працягу цэлых стагоддзяў, ацэньваліся не ў адзін мільён рублёў. Там былі прадметы мастацтва, старажытныя экспанаты. Цікава, куды ўсё гэта падзелася? Але адмірал Чычагаў не згадвае, што пры гэтым нават фамільны склеп Радзівілаў не быў пашкоджаны, косці выкінуты з пахавальняў і многія пахавальні разбураны».





Тагачаснаму ўладальніку замка Д.Радзівілу давялося ўцякаць вельмі далёка. У Нясвіжскім замку засталася яго давераная асоба — эканом Адам. Да гэтага часу ніхто не ведае, ды, мабыць, ужо не давядзецца пра яго сапраўднае імя і прозвішча. Усім ён быў вядомы як «Адам для асобных даручэнняў».

Калі спецыяльная камісія расейскіх войскаў пачала рабіць вопіс гістарычных і іншых каштоўнасцей палаца, то эканом павёў сябе даволі агрэсіўна. Аднойчы раніцай у замку былі знойдзены задушанымі двое дваровых, якія напярэдадні ў камісіі паабяцалі паказаць, дзе схаваны Радзівілаўскія скарбы. Потым такім жа чынам загінулі два салдаты 13-га егерскага палка. У той жа час раз'езд казакаў затрымаў недалёка ад Мірскага замка вершніка з пісьмовым данясеннем да аднаго з Радзівілаў, у якім было напісана наступнае: «...верны слуга Адам схаваў у надзейным месцы 12 каштоўных апосталаў, кухоннае серабро, карціны, а таксама частку рэчаў, вывезеных з Масквы». Але тут зноў патрэбна глядзець шырэй — магчыма, хітры і кемлівы Адам наўмысна накіраваў пасланца з данясеннем на Мір, каб той трапіў у рукі расейцаў.

Не выключана, што ён такім чынам адводзіў следства ад абоза з каштоўнасцямі, які ўсё ж выехаў з Нясвіжа, і знаходзіўся абоз дзесьці паблізу, ля ваколіц горада. Таму эканом свядома цягнуў час. І, відаць, дасягнуў пастаўленай мэты: каштоўнасцей не знайшлі, бо, хутчэй за ўсё, захаваны яны былі не ў самім замку, а ў іншым месцы, магчыма, на адлегласці ў некалькі дзесяткаў кіламетраў ад яго. Самога Адама таксама арыштавалі, але на допытах ён нічога не сказаў. Асмялелыя дваровыя пачалі сцвярджаць, што менавіта эканом забіў двух салдат 13-га егерскага палка. Палявы суд расейскага корпуса генерала Ламберта прыгаварыў злачынцу да пакарання смерцю.

Крыху пазней, калі камісія закончыла вопіс каштоўнасцей замка, высветлілася, што не стае многіх найбольш каштоўных рэчаў, у тым ліку «Дванаццаці апосталаў». Цяпер толькі царскія чыноўнікі дацямілі, што з выкананнем прысуда яны паспяшаліся, бо разам са смерцю эканома Адама ў небыццё сплыла і разгадка казачнай таямніцы, якая цікавіла многіх асоб...

Пасля выгнання французаў за межы Расейскай імперыі і ўцёкаў Радзівіла ў Італію Нясвіжскі замак перайшоў у Палацавае ведамства царскай сям'і. Яно нават прыслала атрад лейб-гвардзейцаў з канкрэтнай задачай — знайсці «Дванаццаць апосталаў» і пад узмоцненай аховай даставіць іх у Пецярбург. Працяглыя і старанныя пошукі, аднак, не далі станоўчых вынікаў...

У хуткім часе замак быў падараваны герою 1812 года генералу П.Вітгенштэйну, які, так і не пабыўшы ў Нясвіжы, прадаў яго ваеннаму ведамству. У старажытным замку пасяліліся выпускнікі кадэцкага корпуса. Усе 18 залаў ператварыліся ў навучальныя аўдыторыі і класы. Будучыя афіцэры таксама шукалі Радзівілаўскія скарбы на Замкавай гары. Найбольш дасведчаныя асобы раілі шукаць падземны ход за межамі замка, а можа, і горада. Існуе версія, што Нясвіж і Мір былі злучаны паміж сабою падземным ходам, які, праўда, да нашага часу ўсё яшчэ не адшуканы. Аднак і зноў усе намкненні скарбашукальнікаў былі марнымі.

Пазней нехта са старажылаў Нясвіжа прыгадаў, што незадоўга да арышту «Адама для асобных даручэнняў» уначы, недалёка ад замка раздаліся два магутныя выбухі. Раніцай каля княскай цяпліцы ўбачылі два глыбокія правалы. Не праверыўшы і асабліва не задумваючыся, іх хуценька засыпалі і зараўнялі , а зверху пасеялі траўку. Толькі праз некаторы час з'явіліся падазрэнні і здагадкі наконт таго, што Адам са сваімі даверанымі асобамі, дачакаўшыся цёмнае ночы, зацягнулі шматпудовыя каштоўныя скульптуры ў патаемнае сутарэнне, якое знаходзілася недзе паміж замкам і Міхайлавай гарою, і ўзарвалі падземныя пераходы...

Не выключана, што «Дванаццаць апосталаў» і найбольш каштоўныя рэчы, пра якія даносіў эканом Адам, засталіся ў ваколіцах Нясвіжа і калі-небудзь будуць знойдзены.

«Дванаццаць апосталаў» — гэта далёка не ўсе каштоўнасці нясвіжскіх магнатаў, але нават іхні кошт вызначаецца астранамічнай лічбай. Агульная вага залатых і сярэбраных статуй, упрыгожаных брыльянтамі, дасягала недзе аднае тоны. Але дакладна ніхто не ведае. Не да ўзважвання было тады! Гэта мы ўзялі вагу чалавека сярэдняга целаскладу і памножылі на колькасць «апосталаў»...

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**

*На здымках:*

1. Невядомы мастак. Партрэт Елізаветы Кішкі, народжанай Радзівіл. XVII — XVIII стст. Знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.
2. Палац Радзівілаў у Нясвіжы.
3. Нясвіж. Гістарычная частка горада.

Джэймс БОЛДУІН

**Джэймс БОЛДУІН (1924 — 1987) — разам з Рычардам Райтам (1908 — 1960), аўтарам славутага рамана «Сын Амерыкі» (1940), можна сказаць, са сваім настаўнікам, — адзін з найбуйнейшых негрыцянскіх пісьменнікаў ЗША, дый увогуле адзін з самых яркіх амерыканскіх пісьменнікаў нашага часу, тых, што найбольш выразна перадавалі ў сваіх творах рэакцыю суайчыннікаў на падзеі жыцця і сам дух гэтага жыцця. Але, у адрозненне ад сваіх белых калег, пісаў ён не так пра тое, што значыць быць амерыканцам, як, перадусім, што значыць быць неграм у сучаснай Амерыцы. «Калі нашыя галасы будуць пачутыя, праблема колеру скуры, невырашальная пакуль яшчэ расавая праблема адпадзе сама па сабе — праз непазбежнасць такога выніку».**
**Як сказала пісьменніца Тоні Морысан на паніхідзе па Болдуіне, ён «адным з першых пранік на «закрытую тэрыторыю» і дэкаланізаваў яе... адкрыў для цёмнаскурых, каб мы маглі пайсці следам...»**
**Найбольш значныя творы Джэймса Болдуіна — нарыс «Запіскі сына Амерыкі» (1955), зборнікі нарысаў «Ніхто не ведае майго імені» (1961), «Імені яго не будзе на плошчы» (1972), аповесць «Калі б Біл-стрыт магла загаварыць» (1974), раман «Іншая краіна» (1962) і , бадай, перадусім: зборнік нарысаў «Наступным разам — пажар» (1963), які зрабіў яго знакамітым.**
**Пісаў Болдуін нямала нарысаў і пра Еўропу, бо з канца 40-х гадоў жыў то ў ЗША, то ў Францыі, якая стала яму сапраўдным другім домам.**




# МАСАВАЯ КУЛЬТУРА І МАСТАК
## (Некаторыя асабістыя назіранні)

Нехта аднойчы сказаў мне, што людзі звычайна не вытрымліваюць занадта інтэнсіўнага кантакту з рэальнасцю. Мелася на ўвазе, што людзі аддаюць перавагу неістапраўднаму перастварэнню іхняга ўласнага жыццёвага вопыту, а фантазіі. Напрыклад, тым часам як Дэ Сіка і Раселіні ўносілі ў італійскае кіно дух жыцця, італійцы самі шчыра аддавалі перавагу карцінам з удзелам Рыты Хэйуорт[1], бо свет, што акаляў яе на экране, нагадваў казку, а той свет, пра які распавядаў Дэ Сіка, быў ім і так вельмі ўжо добра знаёмы. Разам з тым мажліва меркаваць, што амерыканцаў, якія выстойвалі чэргі, каб паглядзець «Шушу» і «Рым — адкрыты горад», таксама вабіў у гэтых фільмах мастацкі свет, які бачыўся ім экзатычным і які не мог стаць для іх светам рэальным. У нашай краіне вельмі часта за ўхваламі, што выпадаюць на долю сур'ёзных твораў, тоіцца ўсяго толькі нястатнасць паставіцца як след сур'ёзна да чаго б там ні было ў свеце.

Не даводзіцца аспрэчваць таго факта, што задужа інтэнсіўнага кантакту з рэальнасцю, калі пад гэтым мець на ўвазе здольнасць успрымаць напружаныя інтэлектуальныя або мастацкія пошукі, людзі і праўда не вытрымліваюць. Я ніколі не мог зразумець, чаму ад іх увогуле гэтага чакаюць. У свеце, якім я яго бачу, існуе падзел працы, і ў людзей кантакт з рэальнасцю досыць інтэнсіўны — трэба ж неяк пражыць жыццё, выгадаваць дзяцей, зноў ды зноў рашаць для сябе вечныя праблемы: нараджэнні, падаткі, смерці. Вядома, было б добра, калі б, рашаючы іх, людзі праяўлялі адно да аднаго большую мудрасць, спагадлівасць, памяркоўнасць, зычлівасць, аднак, ва ўсялякім выпадку, праблемы гэтыя стаяць перад імі заўсёды і гэтаксама стаяць яны перад пісьменнікам. Яму, уласна, няма больш пра што і пісаць. І самое імкненне пісаць пра іх сведчыць аб выключнае мужнасці, так што людзі, апанаваныя такім імкненнем, ужо праз адно гэта апынаюцца ўсё роўна як аддзеленымі ад астатніх. Зусім не рэдка здараецца, што іншыя пачынаюць такіх людзей праследаваць і нават забіваць насмерць. Затым яны ўзводзяць ім помнікі, але з гэтага аніяк не вынікае, што новай генерацыі мастакоў стане лягчэй.

Я не ўпэўнены, што культурны ўзровень натоўпу няўхільна ўзрастае: як паказвае вопыт, у варунках, калі масам даступны высокі, паводле нашага разумення, узровень культуры, могуць адбывацца з'явы самыя непрадказальныя — згадаем Нямеччыну перад другой сусветнай вайною ці сённяшнюю Швецыю. І рэч, здаецца мне, у тым, што мастацтва, скажам, Шонберга[2] і Пікассо (альбо Уільяма Фолкнера і Альбера Камю) па самой сваёй сутнасці аніяк не стасуецца з думкаю пра фізічны спакой людзей дый увогуле пра хоць якісьці спакой. Тым часам імкненне людзей, што ўзняліся да высокага ўзроўню культуры — інакш кажучы, да ўзроўню сярэдніх класаў, — ёсць менавіта імкненне да спакою і цела і духа. Творы мастацтва, якія такіх людзей акаляюць, проста нездатныя выканаць сваю спрадвечную функцыю разбурэння прыміранасці — а гэта ж і сёння адзінюткі спосаб стымуляваць духоўнае жыццё да руху наперад; творы мастацтва становяцца сведчаннем таго, што дасягнута пэўная ступень разумовага развіцця, няхай сабе і кволага. Тым часам мастацтва і ідэі, што яго натхняюць, нараджаюцца ў страсці і пакутах быцця, і немажліва ўдыхнуць у мастацтва гэтую страсць, калі мэта твая —схавацца ад гэтае пакуты.

Наіўна было б чакаць, што пераважная большасць людзей памкнецца да інтэлектуальных і духоўных пошукаў, для якіх дастаткова падрыхтаваныя толькі нямногія і якія па сіле яшчэ больш нешматлікім; гэтага і не варта дамагацца. У большасці ёсць урэшце свой уласны надзённы клопат, як ёсць ён і ў вас, і ў мяне. Гаворачы пра стан масавай культуры ў нашай краіне, мы смуткуем — і на гэта ёсць усе падставы — зусім праз іншае: праз той стан тупасці і блытаніну ўяўленняў, што ахапілі масы. Не ўсе з тых, каму падуладныя сродкі масавай камунікацыі, нягоднікі і не ўсе з іх баязлівыя людзі, хаця, мушу прызнацца, мне цяжка не згадзіцца з рэзкімі абвінавачваннямі Дуайта Макдональда[3], які лічыць, што багата хто з іх — людзі дужа недалёкія. (Дый як інакш? Гэтыя ж людзі ўзняліся да высокага ўзроўню культуры з самага звычайнага натоўпу. І на іх, па-за ўсялякімі сумненнямі, таксама ўплывае найвышэйшы ў свеце ўзровень жыцця і, мажліва, самы неспасцігальна пусты ў свеце лад жыцця. ) Аднак і найвышэйшыя з іх — у палоне ў сваёй публікі; мяне не гэтак бянтэжыць сам факт, што на тэлевізіі ставяць «Дымок»[4], як тое, што перадачу гэтую аж прагне ўбачыць безліч людзей.

Але ж жыць неяк усё-такі трэба. Тыя, каму падуладныя сродкі масавай камунікацыі, і тыя, хто спажывае іхнюю прадукцыю, па сутнасці, апынаюцца ў аднае запрэжцы. Даводзіцца зноў ды зноў вырабляць рэчы, якія самых іхніх стваральнікаў не прыводзяць у захапленне і яшчэ менш у замілаванне, каб зноў ды зноў купляць іншыя рэчы, якія ім, увогуле, не даспадобы і яшчэ менш — неабходныя. Калі б усё зводзілася да вырабу ды набыцця якіхсьці незвычайных плавальных ластаў, аўтамабіляў двухкаляровай афарбоўкі і тэлепраграм накшталт «Дымка», дык становішча не было б такім ужо сумным. Аднак бяда ў тым, што рэчы сур'ёзныя вырабляюцца (і набываюцца) з той самай несур'ёзнасцю, што аж кідаецца ў вочы.

Вось хаця б такі прыклад. «Мост цераз раку Квай»[5] і «Яны не схілілі галовы»[6] — выдатнейшыя фільмы, але ні адзін, ні другі нельга назваць сур'ёзным. Зроблены яны вельмі ўмела і глядзяцца з вялікай цікавасцю, аднак усе намаганні іхніх стваральнікаў скіраваныя на тое, каб гледачы засталіся на небяспечнай адлегласці ад рэальнага вопыту, які ў гэтых стужках якраз з гэтае прычыны і не мог адлюстравацца. Тое шаленства, якое эскізна заўражана ў «Мосце цераз раку Квай», на самой справе нашмат больш небяспечнае і нашмат больш распаўсюджанае, чым можна меркаваць па фільме. Што ж да «Яны не схілілі галовы», дык сама думка, быццам белы і негр могуць пранікнуцца ўзаемнай любоўю і дзеля гэтага трэба адно на доўгі час скаваць іх адным ланцугом, настолькі фантастычная і настолькі не вяжацца з рэальнасцю, што яе можна расцаніць толькі як адну з навамодных і відавочна памылковых аблудаў ліберальнага кшталту, нават калі вы не сумняваецеся ў пажаданасці самое любові на такіх умовах. Мэта такіх фільмаў — не турбаваць, а падтрымліваць упэўненасць; яны не адлюстроўваюць рэальнасць, а толькі ператтлумачваюць яе факты гэтакім чынам, каб мы маглі з імі змірыцца. Яны падрываюць нашую здольнасць успрымаць свет такім, які ён ёсць, і нас саміх такімі, якія мы ёсць на самой справе.

Па сутнасці, масавая культура (як і «сур'ёзная», калі браць п'есы накшталт «Дж.Б.»[7]) сведчыць адно аб разгубленасці амерыканцаў перад тварам таго свету, у якім мы жывём. Выдае на тое, што мы проста не хочам ведаць, што і праўда жывём у гэтым свеце і падверханыя тым самым катастрофам, таму ж самаму вар'яцтву, заганам ды радасцям, з якімі чалавецтва сутыкалася стагоддзямі, упарта імкнучыся іх зразумець. І, вядома, усё гэта мае самае непасрэднае дачыненне да Амерыкі і да тых надзей, якія з Амерыкай звязваліся; цяпер, калі на змену надзеям гэтак відавочна прыйшло расчараванне, выявілася, што ў саміх гэтых надзеях тоілася нежаданне прызнаць існаванне непрыемных бакоў чалавечай прыроды, нежаданне ўсвядоміць неадназначнасць і несправядлівасць любой сацыяльнай структуры, словам, нежаданне паглядзець на сябе, якія мы ёсць на самой справе, адкрытымі вачыма. Амерыканскі лад жыцця пацярпеў няўдачу —і ў спробах зрабіць жыццё людзей шчаслівейшым, і ў спробах зрабіць лепшымі саміх людзей. Мы не хочам гэтага прызнаць, і мы гэта не прызнаём. Мы ўпарцімся ў перакананасці, што бездухоўнасць і злачынныя схільнасці нашых дзяцей — вынік якойсьці памылкі ў разліках (якую можна паправіць), што бясконцая, без мэты варожасць, якая пануе ў нашых гарадах і зрабіла жыццё ў іх больш небяспечным, чым у якімсьці іншым кутку на зямлі, ствараецца і нагнятаецца жменькай аблудных; што гвалтоўная адсутнасць шчырых перакананняў і маральнага аўтарытэту асобы —усяго толькі яшчэ адзін доказ уласцівых нам і ўвогуле сімпатычных калектывізму і дэмакратычнасці. Мы апынуліся ва ўладзе вельмі жорсткай супярэчлівасці паміж тым, чым мы хацелі быць, і тым, што мы ўяўляем сабою рэальна. І нават думаць няма чаго, што мы здолеем стаць такімі, якімі хочам стаць, пакуль не адчуем патрэбы спасцігнуць, чаму жыццё, якім мы тут жывём — пераважна такое пустое, бяскрылае, гідкае.

Вось гэта і павінна стаць задачаю мастака — мастака, які, па сутнасці, не мае з масавай культурай анічога агульнага, як бы часта ні запрашалі многіх з нас даць інтэрв'ю па тэлевізіі. Мажліва, жыццё і не падобнае на тую вытрыманую ў чорных танах, невытлумачальна цудоўную, поўную таямнічасці і духу карціну, якім звычайна паўстае яно ў свядомасці мастака; аднак яно, ва ўсякім выпадку, і не тая залітая сонцам пляцоўка для гульняў, на якой амерыканцы гэтак часта губляюць у сабе спачатку асобу, а потым і душу.

І ўсё ж я адчуваю цвёрдую ўпэўненасць у тым, што гэтая аморфная маса людзей ахоплена цяпер адчайным пошукам нечага такога, што дапаможа ёй аднавіць сувязь з яе ўласным «Я» і адно з адным. Гэтае аднаўленне пачнецца толькі тады, калі праявіцца ісціна. Мы знаходзімся цяпер у эпіцэнтры грандыёзнага працэсу пераменаў, якія — я спадзяюся на гэта ўсёю душой — вызваляць нас ад ілюзіі і вернуць нам сапраўдную нашую гісторыю, якія знішчаць нашыя прадузятыя меркаванні і вернуць нам нашую асобу. А пакуль гэтага не здарылася, існуе масавая культура, здатная адно перадаваць хаас, што нас акаляе; і, можа, таму нам трэба зноў ды зноў нагадваць сабе, што ў гэтым хаасе — і жыццё, і вялікая энергія пераменаў.

1960г.

Пераклаў з ангельскай
Алесь АСТАШОНАК.

---

1 Хэйуорт Рыта — амерыканская актрыса, эстрадная танцоўшчыца, адна з самых папулярных у сусветным кіно ў 40-я гады. Стварыла вобраз ідэальнай гераіні ў фільмах «Клубнічная бландзінка», «Кроў і пясок», «Казкі Манхэтэна», «Гільда». Бадай, найвялікшы поспех мела ў ролі ракавой жанчыны ў стужцы Орсана Уэлса «Лэдзі з Шанхая» (1947).

2 Шонберг Арнольд (1874 — 1951) — аўстрыйскі кампазітар, музычны педагог, тэарэтык, дырыжор ( а яшчэ і мастак). Адзін з буйнейшых кампазітараў нашага стагоддзя. Заснавальнік метаду дадэкафоніі.

3 Макдональд Дуайт (1906 — 1982) — амерыканскі крытык, журналіст.

4 На жаль, перакладчыку не ўдалося высветліць, што ж гэта быў за «Дымок». Аднак, думаю, чытач можа пэўна меркаваць, якую прадукцыю гэты, па ўсім відаць, легендарны твор нам нагадвае.

5 «Мост цераз раку Квай» (1957, прэмія Оскара) —фільм ангельскага рэжысёра Ліна Дэйвіда пра палонных, закатаваных японцамі на будаўніцтве моста. У ім дзіўна спалучаюцца пацыфізм і мілітарызм.

6 «Яны не схілілі галовы» (1958; у савецкім пракаце «Скаваныя адным ланцугом») — стужка амерыканскага рэжысёра Стэнлі Крамера, з якое і пачалася сусветная слава гэтага мастака. У фільме даследуюцца стасункі двух чалавек, белага і негра, што пераадольваюць расавую нянавісць і прыходзяць да высновы аб неабходнасці чалавечага ўзаемаразумення.

7 «Дж.Б.» (1958) — п'еса амерыканскага пісьменніка А.Мак-Ліша (1892 — 1982), біблейская вершаваная алегорыя, мела вялікі поспех на Брадвеі, адзначана Пулітцэраўскай прэміяй.




# Стварысабе КУМІРА!

**Валерый Маслюк і Мікалай Пінігін — вядомыя нашы рэжысёры, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прадстаўнікі аднаго пакалення. Можна яшчэ сказаць і так — В.Маслюк і М.Пінігін — сталыя майстры, кожны са сваёй эстэтычнай пазіцыяй, але... Але ўсё часцей і часцей можна пачуць, што беларускае тэатральнае мастацтва не мае лідэраў, і што, наогул, у нас адсутнічае школа нацыянальнай рэжысуры.**

**Свае думкі на гэты конт рэжысёры В.МАСЛЮК і М.ПІНІГІН выказалі ў гутарцы з нашым карэспандэнтам Вольгай ШЧАДРЫНОЙ.**

**В.М.** Пытанне наконт лідэраў пакуль няхай будзе адкрытым, а праблема беларускай тэатральнай рэжысёрскай школы, на маю думку, перш за ўсё тычыцца мастацтвазнаўцаў, крытыкаў, даследчыкаў. Вось, да прыкладу, такая магутная постаць нашай культуры, як Дзмітрый Арлоў. Выдатны рэжысёр, акцёр, педагог. Калі б нехта цікавіўся ягонымі метадамі, занатоўваў думкі майстра, свае назіранні, як запісвалі ў свой час за Меерхольдам, то, напэўна, нейкая арыгінальная канцэпцыя і на паперы склалася б. Ці, калі б мы, студэнты, уважліва канспектавалі Уладзіміра Маланкіна... Магчыма, з нашых запісаў, прыведзеных да пэўнай сістэмы, атрымалася б кніга кшталту «Рэпетыцыя — любоў мая»...

Мне здаецца, бесклапотнасць, неахайнасць, якія пануюць у навуковым асяроддзі, зводзяць прафесійны аналіз да кухонных ці калідорных гаворак. Патрэбны кнігі, падручнікі па гісторыі беларускага тэатра, а пакуль нашы студэнты займаюцца па расійскіх падручніках. Адкуль жа ўзяцца разуменню свайго месца ў нацыянальным тэатральным кантэксце? У той жа Расіі было і ёсць значна больш людзей, зацікаўленых, каб спадчына, жывая творчасць таго ці іншага Майстра тэатра не знікла, не растала ў паветры.

**В.Ш. З Вашых слоў, Валерый, вынікае, што ў адсутнасці канцэпцыі беларускай школы тэатральнай рэжысуры вінаватыя навукоўцы і крытыкі. Мне ж здаецца, што прафесія вымушае рэжысёра быць і пэўным тэарэтыкам, за якім стаіць свая тэма, сваё бачанне вобразаў, стылістыкі спектакля. А гэта, у сваю чаргу, патрабуе валодання словам, умення пісаць...**

**В.М.** Не кожны здольны гэта зрабіць.

**М.П.** Я думаю, ёсць пэўны міф аб нацыянальнай школе, нацыянальнай рэжысуры. На самой справе школы гэтай няма. Міхаіл Чэхаў — вучань К.С.Станіслаўскага. У эміграцыі, у Амерыцы, стварыў славутую тэатральную школу. Адзін з яго вучняў — Лі Страсберг, які выхаваў Дасціна Хофмана, Аль Пачына, Джэсіку Ланж. Якая гэта тэатральная школа? Руская ці амерыканская? Стэфанія Станюта вучылася ў Маскве. Хадзіла на спектаклі Таірава, Меерхольда. Якая ў яе школа?

Беларуская тэатральная школа — гэта тэатр Галубка, Буйніцкага; тэатр, які заснаваны на фальклоры, на народных імпрэзах, батлейцы. Гэтыя традыцыі існуюць і цяпер. Сённяшні ж тэатр імкнецца да еўрапейскага драматычнага мастацтва, жывіцца набыткамі сусветнай культуры.

**В.Ш. Дай Божа, каб нашыя рэжысёры не стаялі ў баку ад сусветнай культуры, але гэта ніякім чынам не замінае ім узбагачаць роднае мастацтва сваімі пошукамі, адштурхоўваючыся ад самабытнай беларускай культуры. Тэатр звязаны са словам, мастацкім вобразам, з жывым акцёрам — усё гэта разам зыходзіць ад нацыянальнага характару, мовы. Рэжысёр сам прадстаўнік нацыянальнай культуры, таму нават калі ён выхаваны, скажам, на рускай школе ці якой іншай, яго пачуцці кроўнага, карэннага пачатку ўсё роўна павінны праяўляцца на сцэне, у ягоных патрабаваннях да акцёраў, да драматургіі, музыкі. Тая ж Стэфанія Станюта — перш-наперш беларуская жанчына, і яе беларускасць дамінуе ў любым яе тэатральным вобразе.**

**В.М.** Адкуль узнікла пытанне нацыянальнай беларускай рэжысуры? Мне здаецца, ад патрэбы бачыць яе. Калі сур'ёзна ставіцца да тэатра, то трэба вызначыць для сябе: што такое нацыянальнае мастацтва? Перш за ўсё — мастацтва. Мастацтва, якое зразумелае ў любой краіне свету. Зыходзячы з гэтага, галоўнага крытэрыя, беларускае тэатральнае мастацтва ўзнікае тады, калі мастак сродкамі, уласцівымі толькі гэтай нацыі, народу, змог стварыць мастацкі твор. Калі казаць пра школу нацыянальнай тэатральнай рэжысуры, то я, асабіста, не магу адносіць сябе да яе. Бо я, магчыма, пакуль не ведаю тых адметных рысаў, мастацкіх фарбаў, якія ўласцівыя маёй нацыі і пры дапамозе якіх я магу выказаць тую ці іншую мастацкую ідэю. Чаму? Таму што ў свой час, калі я вучыўся ў Ленінградзе, я рабіў усё, каб быць падобным да астатніх і забыцца на сваё нацыянальнае, геннае, родавае, што, пэўна ж, мне было ўласціва. Няправільна? Вядома. Але нам, юнакам, ніхто не дапамагаў, не накіроўваў нас на разуменне сваёй беларускай ментальнасці. Мы вывучалі тэатры Ленінграда, школу Георгія Таўстаногава. Гэта таксама трэба і неабходна, але ў спалучэнні і ў дапаўненне да нацыянальнай культуры. Таму беларуская школа рэжысёрскага тэатральнага мастацтва, на маю думку, — у будучым. Умацуецца дзяржава, будзе дзяржаўны падыход у выхаванні нацыянальнага ў чалавеку, мастаку, тады і пагаворым.

**М.П.** Прафесія рэжысёра залежыць ад літаратуры, ад усёй агульнай культурнай сітуацыі. Што казаць пра беларускую рэжысёрскую школу, калі нацыя толькі пачынае сама сябе ўсведамляць. У адрозненне ад англічан ці, скажам, грузінаў — нам не пашанцавала. У нас увесь час перарывалася моўная, культурная, гістарычная традыцыі.

**В.Ш. Дык якое выйсце: чакаць, пакуль нешта створыцца само па сабе ці стварыць самім? Хай гэта будзе нейкі культурны міф, але з акрэсленымі нацыянальнымі рысамі?**

**М.П.** Як той казаў: хопіць нудзіцца пра тое, чаго няма, —трэба ствараць самім. Ёсць, дарэчы, й прыклад: Уладзімір Мулявін — рускі чалавек — прыехаў сюды і стварыў новую плынь беларускай культуры — нацыянальную эстраду. Можа, яму было лягчэй, таму што песенны фальклор, на які ён абапіраўся, меў ужо дасканала распрацаваную структуру. Патроху будуць развівацца іншыя плыні: філасофія, эстэтыка, культуралогія... Працэс ідзе, а мы ўсе ад яго залежым. Я раней ніколі нацыянальнымі пытаннямі асабліва не цікавіўся, у адрозненне, скажам, ад Маслюка. Вырас у Мінску, у рускай сям'і. Ніякіх каранёў тут не было. А потым з'явілася новае асяроддзе. Пачаў працаваць у купалаўскім тэатры, стаў чытаць, размаўляць па-беларуску. Разуменне нацыянальнага прыходзіла да мяне спакваля. Таму, магчыма, і «Тутэйшыя» з'явіліся не дзесяць гадоў таму, а ў 1991 годзе, калі грамадская сітуацыя і мая асабістая патрэба вызначыцца ў нацыянальным рэчышчы супалі. Вяртаючыся да нашага галоўнага пытання наконт рэжысёрскай школы, нельга не закрануць вельмі важную праблему — выхаванне студэнтаў. У Акадэміі мастацтваў павінна давацца добрая гуманітарная адукацыя. У нас, калі мы вучыліся, не было беларускамоўнага, беларускакультурнага асяроддзя. А без гэтага не будзе і нацыянальна свядомых творцаў. Сістэму К.С.Станіслаўскага пакуль ніхто не адмяняў. Гэта — лепшае, што было вышукана ў тэатральнай рэжысёрскай практыцы свету. А вось нацыянальная скіраванасць і добрая агульная гуманітарная адукацыя нашым студэнтам вельмі патрэбныя. Без акцёраў, без добрага драматургічнага матэрыялу на цудоўнай беларускай мове ніякі рэжысёр нацыянальнага тэатра не створыць!

**В.М.** Наконт міфаў. Мне здаецца, што міфаў рабіць не трэба. Давайце будзем выкарыстоўваць тое, што напрацавана. Вось ёсць, напрыклад, геніяльны твор Гётэ «Фауст». Выдатны пераклад Васіля Сёмухі зрабіў яго з'явай беларускай культуры.

**В.Ш. Чаму ж не ставіце?**

**М.П.** Чаму мы многае не ставім? А няма з кім. На акцёра В.Тарасава, напрыклад, некалі хадзіў увесь Мінск. Гэта была асоба. Таму што ён вучыўся ў выдатных педагогаў, якія пасля вайны прыехалі на Беларусь, каб ствараць тэатральна-мастацкі інстытут. Гэта была тэтральная школа, якая ставіла сваёй мэтай выхаванне артыста як асобы.

**В.М.** Сёння акцёр не ведае ні як паводзіць сябе на сцэне, ні што казаць з яе. Няма ўнутранай патрэбы шукаць нешта новае ў мастацтве, новую форму, новыя фарбы ролі, вобраза, новыя думкі, нарэшце... Адсюль, магчыма, узнікае акцёрскі нігілізм: маўляў, няма што іграць. Акцёры сёння ў большай ступені марыянеткі, чым былі калісьці, бо страцілі адчуванне: навошта я выходжу на сцэну.

**М.П.** Калі б акцёр нармальна зарабляў, існаваў бы акцёрскі рынак ці біржа, ён меў хаця б канкрэтнае ўяўленне пра тое, колькі ён сёння каштуе. І ўвогуле, праблемы акцёрскія, рэжысёрскія, тэатральныя — усё гэта не толькі творчыя праблемы, якія тычацца таго ці іншага мастака. Гэта перш-наперш праблемы дзяржаўныя. Яшчэ Гётэ казаў: хочаце стварыць нацыю — стварыце спачатку тэатр.

**В.М.** Павінна быць дзяржаўная палітыка, скіраваная на развіццё нацыянальнага мастацтва. А яе пакуль няма і не прадбачыцца. Нам усім, хто яшчэ не збег з жабрацкага карабля культуры, трэба пажадаць мужнасці. Бо дапамогі ніякай не будзе. Спадзявацца трэба на сябе. У Віцебскім тэатры, дзе я працую мастацкім кіраўніком і дырэктарам, мне хацелася б стварыць нейкі «востраў прыгажосці і дасканаласці». Спадзяюся, што і людзі знойдуцца, якія захочуць убачыць менавіта гэта і менавіта сёння.

**М.П.** Бедная краіна мае беднае мастацтва. Праўда, калі б гэта была мудрая краіна, яна б зразумела, што без культуры дзяржава не падымецца.

**В.Ш. Я не буду завяршаць нашу гаворку на традыцыйна бадзёрай ноце: маўляў, мінецца час, усё ўсталюецца, і квітнець тады нашаму нацыянальнаму мастацтву. Нічога не ўсталюецца, пакуль пануе на ўсёй нашай беларускай прасторы дух не Майстроў, не асоб, а толькі вучняў. У палітыцы — вучні, у мастацтве —вучні. Вучні, якія ніяк не здолеюць стаць Настаўнікамі. А настаўнікі побач: у Расіі ці ў Амерыцы, у Літве ці ў Кітаі...**

**Я хачу, каб у нашым грамадстве нарэшце выспелі свае куміры. Прынамсі, тэатр іх чакае.**



«Зманілі Богу, зманілі...» — прэм'ера спектакля з такой назвай па п'есе Алега Ждана адбылася ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа. Гэта кранаючы аповяд пра лёс адзінокіх вясковых жанчын, якіх не песціла жыццё.

Над спектаклем працавала пастановачная група тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна». Рэжысёр-пастаноўшчык — Валерый Мазынскі, мастак — Віктар Цімафееў, кампазітар — Алег Залётнеў.

*На здымках:*

1. Сцэна са спектакля. У ролі Зоські — заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Людміла Пісарава.

2. Сцэна са спектакля. Сцяпан — артыст Алесь Брысь, Антаніна — народная артыстка Рэспублікі Беларусь Зінаіда Канапелька.

**Фота Аляксандра Хітрова, БЕЛІНФАРМ.**



## ЗВЫЧАІ НАШЫХ ПРОДКАЎ

Васіль ЛІЦВІНКА

# КАМАЕДЗІЦА




Абрады, вядомыя з глыбокай старажытнасці, захавалі дзеці Бялбога — беларусы. У кожнай сучаснай вёсцы вы пачуеце баладу пра свякроў, старшую жанчыну, слова якой, у адпаведнасці з правіламі матрыманіяльнага грамадства, лічыцца святым, сакральным, магічным, пасылае нявестку «выбіраці лёну — не выбераш лёну, не вяртайся дадому, стань у чыстым полі калінаю» (у варыянтах — быліною, тапалёю). Так і здараецца — нявестка становіцца дрэвам у полі, якое сячэ пасля вяртання дадому сын. Тут мы бачым унікальнае спалучэнне старажытных форм еднасці з прыродай, увасобленых у выключную па мастацкасці вобразную форму балады, дзе трагедыйны, драматычны сюжэт дапаўняецца багата распрацаванай у нюансах мелодыкай.

Не менш старажытным ёсць і зафіксаванае ў паўночна-заходнім рэгіёне Беларусі татэмнае свята Камаедзіцы, якое яшчэ ў XIX ст. было жывой з'явай і вымагае неадкладнага аднаўлення хаця б у форме мастацкай рэканструкцыі.

Паняцце «татэм» літаральна азначае: «Яго род». Маецца на ўвазе сукупнасць вераванняў, абрадаў, звычаяў, фальклорных твораў, заснаваных на ўяўленні аб кроўнай роднасці людзей з татэмам — жывёлай-продкам, ад якога быццам паходзяць людзі гэтага роду. Членам роду забараняецца забіваць татэмную жывёлу-продка, паляваць на яго і есці яго мяса, увогуле крыўдзіць. Да яго ставіліся як да найбольш паважанага родзіча, святой асобы, абагаўлялі, уміласціўлівалі. У прашчураў беларусаў такім татэмам быў «мядзведзюхна-бацюхна». Бязмежная павага да гэтай жывёлы, сапраўды вельмі антрапаморфнай, нарадзіла ў нашых дзядоў цэлы комплекс уяўленняў, вераванняў, міфаў пра мядзведзя, якія пранізваюць амаль усе жанры беларускага фальклору і могуць стаць асновай для ўвасаблення ў мастацкай форме мядзвежага свята Камаедзіцы.

Найбольш старажытнае міфалагічнае татэмнае ўяўленне гучыць у звязаных з вобразам мядзведзя казках, паданнях, легендах. Напрыклад, у казцы «Мядзведзь — ліпавая нага»: жылі-былі дзед і баба. Пайшоў дзед у лес па дровы і сустрэў мядзведзя. Кінуўся дзед уцякаць, аж чуе — мядзведзь даганяе, сапе за самай спіною. Трэба дзеду ратавацца, а схавацца няма куды, усюды мядзведзь дастане. Выхапіў дзед сякеру — і на мядзведзя, адсек яму нагу, ледзь той уцёк. Узяў дзед мядзвежую лапу і прыносіць сваёй бабе: «Вось табе, старая, будзе што і зварыць, і спрасці.»

Запаліла баба печ, зняла з лапы скуру, кінула мяса ў кацёл, сядзіць ля агню ды прадзе, ды песні пяе. А мядзведзь тым часам зрабіў сабе з ліпы нагу, прыкруціў лыкам ды пайшоў у вёску да дзеда. Падышоў пад вокны і пяе:

*Рып-рып нага, рып-рып ліпавая,*
*Усе ў лесе спяць, усе ў вёсках спяць.*
*Адна бабка не спіць,*
*на маёй скуры сядзіць,*
*Маю воўну прадзе, маё мяса варыць.*
*Я не ў госці іду, я вам смерць нясу.*

У адным са шматлікіх варыянтаў (відаць, найбольш старажытным) дзед і баба за татэмнае святатацтва самі ператвараюцца ў мядзведзяў.

А вось ужо больш позняя хрысціянізаваная легенда аб паходжанні мядзведзя: «Калі бог хадзіў па зямлі, захацелася аднаму чалавеку з жонкай, якія жылі вельмі бедна і крыўдзіліся, што бог іх нічым не надзяляе, спужаць яго. І сталі думаць, як гэта зрабіць. Чалавек кажа да жонкі: «Давай, калі бог будзе ісці праз мост, выскачым з-пад яго і заравем, дык ён і спужаецца». Так і зрабілі. Тады бог адказаў: «Калі вы так зараўлі, то будзеце цэлы век раўці». І абярнуў іх мядзведзямі. З таго часу і з'явіліся мядзведзі».

Цікава і наступнае паданне, дзе апавядаецца, што мядзведзь быў такім жа чалавекам, як і мы. Людзей тады яшчэ было мала, і жылі яны ў лясах. Палявалі на звяроў і птушак, улетку збіралі грыбы, ягады, арэхі, капалі карэнні і назапашвалі на зіму. Найбольш запасалі мёду, бо было багата пчол. Іх шукалі ў дуплах, і хто першы знаходзіў, то абвязваў тое дрэва вяроўкаю, тады ўжо ніхто не меў права іх чапаць. Але жыў у той час адзін гультай несусветны. Ленаваўся ён сам шукаць пчол, дык выдзіраў чужыя. Раставўсцеў на чужым мёдзе, сам, як калода, зрабіўся. Цяжка яму стала лазіць на дрэвы па мёд. І пайшоў ён да чарадзея, каб той дапамог — зрабіў яго лёгкім. Ідзе лесам, бачыць —ліпа абвязаная. Выдраў ён мёд, наеўся і пайшоў далей. Ідзе —аж другая ліпа абвязаная з пчаліным дуплом. Выдраў ён мёд і з гэтага дупла. Доўга ён так ійшоў, нарэшце дайшоў да зямлянкі, дзе жыў чарадзей. Пастукаўся, але ніхто не адчыняе, відаць, няма гаспадара дома. Сеў ён чакаць, аж бачыць ліпу з дуплом. Давай драць мёд і ўплятаць за абедзве шчокі, а тут гаспадар ідзе. Зірнуў чарадзей і кажа: «Ну, за такую благую работу будзеш ты і твае дзеці з гэтай пары тое і рабіць, што драць пчол». І абярнуў чарадзей гэтага гультая ў мядзведзя.

На больш высокім эмацыянальна-мастацкім узроўні павага да «мядзведзюхны-бацюхны» гучыць амаль ва ўсіх разнавіднасцях песеннага календара беларусаў. Першапачатковымі тут былі, відаць, веснавыя валачобныя песні, дзе валхоўнікі, валачобнікі, вядомыя пазней як скамарохі, сталі вадзіць вучоных мядзведзяў, што ператварылася ў чыстую забаву, нарадзіла знакамітую Смаргонскую мядзведжую акадэмію. У пятроўскія часы тэатралізаваныя мядзведжыя прадстаўленні арганічна ўвайшлі ў калядныя святочныя карнавалы і там захоўваюцца да нашага часу, але цяпер гэта ўжо мядзведзі-мастакі.

А вось якім падобным да чалавека выглядае наш продак у запісанай Р.Р.Шырмай жніўнай песні:

*Я пад борам жыта жала,*
*Пад мяжою дзіця клала;*
*Пад мяжою дзіця клала,*
*Мядзведзь з лесу выбягае*
*— Памагай бог, маладзічка!*
*Чаму плача твае дзіцятачка?*
*— Мядзведзюхна, мой бацюхна,*
*Вазьмі яго на ручанькі,*
*Нясі яго ў дубраваньку,*
*Падой чорну карованьку,*
*Ой, чорную,падласую,*
*Майго бацькі ўласную.*
*— Ой, рад бы я панасіці,*
*Ды баюсь, каб не ўкусіці;*
*Ой, рад бы я з ім сесці,*
*Ды баюся, каб не з'есці;*
*Ой, рад бы я й калыхаці,*
*Ды баюся, каб не ўдраці!*

«Як мядзведзіцу багатую», вязуць маладую ў дом маладога ў час вяселля, а насустрач у вывернутым кажусе свякроў. Вясельнікі ў гэты час співаюць:

*Выйшла маці ў аўчыне*
*Хацела нявестку злякаці.*
*Нявестка не баіцца,*
*Сама за стол садзіцца.*

*За лесам у гаі мядзведзь рыкае,*
*Выйшла свякроўка, нявестку лякае*
*— Ды я таму мядзведзю мядзіну кіну,*
*А сваёй свякроўцы пераб'ю спіну.*

*Да знаці, знаці, што чужая маці,*
*Вывернула кажушок да ідзе пужаці,*
*— Ды, не пужай, мамка, я не баюся,*
*Калі вам не трэба, я назад вярнуся.*

Найпрыгажэйшай часткай свята ў гонар нашай сакральнай жывёлы могуць стаць шматлікія песні, непасрэдна не звязаныя з абрадам, дзе прысутнічае вобраз мядзведзя: «Мядзведзь кару дзярэць — Маруся ваду бярэць» (любоўная); «Хлопчык у калысцы, як мядзведзь, равець» (жартоўная); «Я з нямілым, як мядзведзіца ў бярлозе, праляжала» (сямейная).

Не злічыць паэтычных загадак, прыгожых выслоўяў, прымавак аб мядзведзю, як, напрыклад, наступнае, пабудаванае на іроніі: «Не мае рацыі мядзведзь, што карову задраў, але не мае рацыі і карова, што ў лес зайшла » Неад'емны вобраз мядзведзя ў скоках, танцах і асабліва ў карагодах, дзе ён паказвае, як бабы цеста месяць, дзяўчаты скачуць, дзеці ў гарох падпаўзаюць, жнеі жнуць, поп у царкву ідзе.

Само каляндарнае свята Камаедзіца, прымеркаванае па грыгарыянскаму і юліянскаму календарах да 24 сакавіка і 6 красавіка, прысвячалася ўрачыстай сустрэчы сакральнага продка пасля доўгага зімовага сну.

Свята гэта бывае напярэдадні Дабравешчання. У гэты дзень рыхтуецца асобая ежа: на першае гатуецца сушаны рэпнік, таму што мядзведзь ужывае пераважна раслінную ежу, травы. На другое падаецца кісель, таму што мядзведзь любіць авёс. Трэцяе гатуецца з гарохавых камоў. Пасля абеду ўсе — старыя і малыя —кладуцца, але не спяць, а самым павольным спосабам перакатваюцца з боку на бок, стараючыся прыладзіцца да паварочвання мядзведзя. Цырымонія гэта працягваецца каля дзвюх гадзін і быццам бы дапамагае, каб мядзведзю лёгка было ўстаць са сваёй зімовай бярлогі. Пасля абеду сяляне не займаюцца сваімі дзённымі работамі, а святкуюць. Па перакананні сялян, мядзведзь менавіта на Дабравешчанне абуджаецца ад спячкі, устае са сваёй бярлогі. Вось і сустракаюць яго з добразычаннямі!

Пачатак свой гэта свята вядзе, без сумнення, ад часоў дахрысціянскіх і служыць магчымай аргументацыяй таго, што, напрыклад, на Бягомльшчыне, пакланяліся мядзведзю. Па расказе старажылаў у мясцовасці гэтай былі велізарныя лясы і непраходныя гушчары, у якіх вадзілася мноства самых разнастайных дзікіх звяроў, самым моцным з якіх быў мядзведзь-драпежнік. Каб улітасцівіць яго, людзі і прыдумалі веснавое «вітанне». Довадам на карысць гэтага меркавання ёсць свята Камаедзіцы.

Святую і прыгожую справу зробяць тыя работнікі культуры, якія выкарыстаюць розныя жанры народных твораў і створаць рэканструяваныя сцэнары выключнага па сваёй маляўнічасці свята Камаедзіцы і такім чынам запоўняць яшчэ адну пустку, зробяць значны ўнёсак у адраджэнне найбольш адмысловых з'яў духоўнай культуры беларусаў.

Выказваем шчырую падзяку фальклорным калектывам в.Крулеўшчына Докшыцкага раёна і СШ № 166 г.Мінска, якія рупліва працуюць над узнаўленнем гэтага свята, і спадзяёмся, што іх добры прыклад натхніць і іншых, якім Асацыяцыя фальклярыстаў Беларусі гатова прыйсці на дапамогу.




Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 434

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.


